Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# ДОЛЯ ПРАЦЫ

Выходзіць два разы у тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр., на 3 мес. — 4 зл., на паўгоду — 8 зл., на год — 15 зл., заграніцу ўдвая даражэй. Пераменa адрэсу 30 гр. | Непрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 грош. за радок петыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№ 5 — Вільня, Серада 15-га жніўня 1928 г. — Год 1

## Яшчэ аб зьмене канстытуцыі.

У часе бюджэтных дэбатаў „санатары“ ўвесь час падкрэсьлівалі, што барацьба навокал бюджэту — гэта толькі ўступ да дэцыдуючай (рашучай) бітвы аб зьмене канстытуцыі. Пасьля мізэрных зьменаў у бюджэце, якія выклянчылі пэпэсаўцы і вызваленцы, урад, як ведама, адмовіўся ад магчымасьці налажыць праз Сэнат тымчасовае veto на соймавыя зьмены ў бюджэце. Як пісалі „санатары“, гэта выглядала вось як: „так, дзеткі, на гэты раз мы вас выбачаем, вы трошкі нагаварыліся, за гэта-ж вам і плацяць грошы, але вось мы пабачым, як вы будзеце сабе трымаць у васеньнім дэбаце над канстытуцыяй. Тады, калі вы нагаворыцеся, мы вас пашлём да хаты“.

У той час апазіцыянер „яго каралеўскай міласьці“ пэпэс Недзялкоўскі трубіў у іерохонскіх трубах, аб вялікай перамозе Сойму ды рэзыгнацыі ўраду.

Але нядоўга трываў гэты трыўмф. У сваім інтэрв'ю маршалак Пілсудскі зусім ня двухзначна даў да зразуменьня, як адносяцца пануючыя сфэры да балбатаньня Дашынскага аб „мірным сужыцьці Сойму з Урадамі“. Калі ўрад згадзіўся на соймавыя зьмены ў бюджэце, то гэта толькі таму, што па 1) Сойм фактычна нічога не зьмяніў, а па 2) Урад хоча даць дэцыдуючую бітву ў пытаньні аб зьмене канстытуцыі. Гэтае пытаньне запраўды зьяўляецца для ўраду дэцыдуючым. Ня дзеля таго, што цяперашняя канстытуцыя сьцясьняе пануючую бюракратыю ў яе дзейнасьці. Зусім не! Канстытуцыя 17 сакавіка зусім яе не сьцясьняе. Запраўдны сэнс хаценьня зьмяніць канстытуцыю—мае зусім іншае жарало. Але перадусім — на чым мае палягаць таямнічая зьмена, якую яшчэ недзе хаваюць пад хвартушком? На гэтае пытаньне адказваюць усе розныя канстытуцыйныя праекты, апрацованыя „санацыйнымі“ прафэсарамі. Гэтыя прафэсары разьвілі інтэсыўную дзейнасьць. Не дарма-ж пяецца ў нямецкай рэвалюцыйнай песьні 1848 году.

Fünf und siebzig Professoren,
Vaterland, du bist verloren*).

Прыглядзімся да некалькіх з гэтых праектаў.

Станіслаў Буковецкі на прапанову санацыйнага „Саюзу работнікаў места і вёскі“ апрацаваў праект, паводле якога прэзыдэнту надаецца права ня больш ня менш, як накладваць veto на пастановы Сойму, права, якое яшчэ ў 1791 годзе францускае заканадаўчае сабраньне не хацела даць каралю.

Урад адказвае толькі перад прэзыдэнтам. Вось гэта правы прэзыдэнта і ўраду. Сойм, па праекту Ст. Букавецкага, таксама мае правы. Дэпутаты, напрыклад, маюць права зьбірацца ў Сойм і крытыкаваць урад. Міністры, калі захочуць, могуць іх выслухаць, але і рабіць будуць тое, што знойдуць патрэбным. Яны будуць адказваць толькі перад прэзыдэнтам, а ня перад Соймам. Сойм — гэта будзе такі нібы палітычны клюб, дзе розныя безработныя інтэлегэнты будуць зьбірацца і гутарыць аб палітыцы. Запраўдная палітыка будзе перараблявацца прэзыдэнтам і ягонымі міністрамі, не абмежаванымі ў сваей уладзе—і не адказнымі ні перад нім. Гэта па праекту Букавецкага.

Яшчэ адзін праект апрацаваў прафэсар Яворскі, быўшы аўстрыяцкі манархіст, цяпер „санацыйны рэспубліканец“. Яворскі таксама перадае ўжо ўладу прэзыдэнту, адмяняе прапарцыяльныя выбары ў Сойм. Сойм і Сэнат ураўняюцца ў сваіх правох. Падставу дзяржаўнага жыцьця прадстаўляюць, па праекту Яворскага, самаўрады, падтрымліваныя карпарацыямі. Карпарацыі гэтыя паходзяць з Італіі.

Гаспадарства закладае карпарацыі і вызначае, хто павінен належаць да іх. Належаньне да такіх карпарацыяў, ці то—„прафэсіянальных саюзаў“—абавязкава. Усе сябры „праф. саюзаў“ аднаго ваяводзтва выбіраюць кіраўніцтва. Кіраўніцтва „праф. саюзаў“ усіх ваяводзтваў пасылае прадстаўнікоў у краёвае кіраўніцтва. Які лёс спаткае вольныя праф. саюзы, Яворскі дэлікатна замаўчвае, але можна больш-менш даведацца, што іх так ці інакш зьліквідуюць Што з сябе будуць прадстаўляць такія гаспадарственыя праф. саюзы — лёгка зразумець, калі дадамо, што да іх будуць належаць, як працадаўцы, так і працуючыя дадзенай прафэсіі.

Цікава, як выглядала-б узапраўднасьці гэтае „ідылія“ згоды капіталістаў з сваімі работнікамі!

З праектаў Букавецкага і Яворскага можна сабе ўявіць агульны кірунак будучых канстытуцыйных зьменаў. Яны маюць адну мэту: устанавіць неабмяжованае панаваньне заможных клясаў.

Які павінен быць погляд працоўных гушчаў на ўсе гэтыя праекты? Працоўныя гушчы павінны ў першую чаргу аддаць сабе добры адчот у сацыяльнай падкладцы гэтых зьменаў.

Што гэта такое канстытуцыя?

Для кожнага больш-менш палітычна граматнага ясна, што канстытуцыя выражае стасункі сілаў розных клясаў. Канстытуцыя 17-га сакавіка была ўведзена ў той час, калі буржуазія была шмат слабейшай, чым цяпер. З аднаго боку быў моцны ўплыў расейскай рэвалюцыі, з другога боку працуючыя масы яшчэ ня былі здэмаралізаваны пэпээсаўскімі і вызваленскімі здраднікамі. Буржуазія пайшла на кампраміс і дапусьціла ўвясьці такую больш-менш дэмакратычную канстытуцыю, як гэтую з 17-га сакавіка. Але трошкі пазьней, як толькі, дзякуючы Дашынскім і Тугуттам, масы палітычна былі абезаружаны, заможныя клясы пачулі сабе мацнейшымі. Стасункі сілаў, дзякуючы недахопу арганізаванасьці і клясавай сьвядомасьці працуючых, зьмянілася на карысьць буржуазіі.

Дзеля гэтага канстытуцыя 17-га сакавіка была заўсёды кавалкам паперы, а буржуазія рабіла тое, што ей падабалася. І фактычна ня было такога ўраду ў Польшчы, які-бы не ламаў кожны дзень канстытуцыю.

Зьмена канстытуцыі фактычна палажэньня ня зьменіць. Яна толькі афіцыяльна зацьвердзіць тое, што ўжо існуе.

У сваіх „пілігрымах“ на абшарніцкіх зьездах, Славэк ня раз гаварыў: „Зьмянілася палажэньне ў Польшчы — павінна зьмяніцца і канстытуцыя“.

Тупыя пэпээсаўскія і вызваленскія мазгі ня могуць гэтага зразумець. Для іх канстытуцыя гэта—штось такое адарванае ад клясавай барацьбы ў краі! Яны абдумваюць палажэньне з чыста фармальна-юрыдычнага пункту гледжаньня. Яны не разумеюць, што тут адбываецца барацьба клясаў. Баючыся зьвярнуцца да масаў, „левыя“ хочуць пераканаць урад не рабіць зьменаў. Яны прабуюць усе засобы — то яны страшаць небясьпекай камуністычнага перавароту, то тым, што гэтыя зьмены зробяць дрэннае ўражаньне на заграніцу. Усе пытаньні хочуць яны залатвіць у сьценах Сойму, ці хутчэй габінэту.

Але ў чатырох сьценах габінэту ня можа быць залатвена пытаньне аб зьмене канстытуцыі.

У чатырох сьценах Сойму можна толькі баламуціць і займацца палітычнай прастытуцыяй, як правільна адзначыў марш. Пілсудскі.

Буржуазія цяпер мацнейшая і праўдзе з Соймам, або бяз Сойму тое, да чаго яна імкнецца.

І тут не паможа плач і клянчаньне „геройскіх“ павадыроў дэмакратыі.

А працоўныя масы гэта разумеюць і вядуць сваю барацьбу таксама—*з Соймам ці бяз Сойму!*

*) „Семдзесят пяць прафэсараў—дык, бацькаўшчына, ты будзеш загублена“.

## СЬЦЯПАН РАДЗІЧ.

**(Яго жыцьцё і дзейнасьць, сьмерць і—палітычны тэстамэнт).**

Апошняя вестка даносіць аб сьмерці Сьцяпана Радзіча. Радзіч меў застарэлую „цукровую хваробу“, на груньце якой тыя раны, якія ён атрымаў ад стрэлаў расшаленага сэрбскага эндэка ў Сойме, самі па сабе несьмяротныя, страшэнна цяжка гаіліся, выклікаючы розныя ўскладненьня, а ўканцы давялі да сьмерці.

Харвацкі народ з цяжкім болем адчуе сьмерць свайго стойкага чаловага павадыра, страшэнна папулярнага, асабліва сярод харвацкага сялянства, якое стварае амаль ня выключна насяленьне краю.

Радзіч—стары харвацкі дзеяч,—бліскучы журналіст і палітычны аратар, усё жыцьцё сваё бароўся за самастойнасьць і волю харвацкага народу, бароначыся ад імкненьняў сэрбскіх імпэрыялістаў да панаваньня над харватамі. Яшчэ ў 1895 г., студэнтам Радзіч прымаў учасьце ў проці-сэрбскіх маніфэстацыях. У 1900 г. ён прапануе сэрбам—нацыянальны саюз—на падставе поўнай роўнасьці, а ў прышласьці—фэдэрацыю вольных дзяржаўных народаў. Няшчырая палітыка сэрбскіх нацыяналістаў робіць гэтага шчырага барацьбіта за права свайго народу да поўнага самаазначэньня вельмі асьцярожным, а пасьля і варожым, у стасунку да сэрбаў. Таму—у 1914 г. у час выбуху вайны, калі сэрбы апынуліся на баку Расеі і саюзьнікаў, Радзіч заклікае харватаў, каб сталі на бок Аўстрыі. Але ў канцы 1917 г. Радзіч зьмяняе фронт, прапануючы ізноў сэрбам паразуменьне і аб'яднаньне.

У часе Парыжскай Міравой Канфэрэнцыі Радзіч робіць усе высілкі, каб загарантаваць харвацкаму народу самастойнасьць і незалежнасьць, ня веручы ў шчырасьць абяцаньняў сэрбскіх дзяржаўнікаў, як знаміты цэнтраліст-нацыяналіст, павадыр „радыкалаў“, Пашыч. Але сэрбы сярод саюзьнікаў мелі вялікія ўплывы, дый, спрытна выкарыстаўшы часовую „нямецкую арыентацыю“ Радзіча, здабылі на міравой Канфэрэнцыі для сябе вялізарную перавагу ў нова-скалочаным „Сэрба-Харвата-Славенскім Каралеўстве“. За рашучы пратэст Радзіча і яго таварышоў і акцыю яго проці злучэньня Харватыі з Сэрбіяй—на такіх варунках нацыянальнага падбою Харватыі — сэрбскія ўлады арыштуюць Радзіча ў 1919 г.

Звольнены ў 1920 г., ён выходзіць з вастрогу з крыкам:—„Хай жыве вольная незалежная харвацкая рэспубліка!“—рашучым ворагам сэрбскай буржуазіі.

У 1923-24 г. г. распачынаецца — пасьля сьцягу няўдалых спробаў мірнага паразуменьня з сэрбамі ў працягу 2 гадоў—пэрыяд востра-варожай акцыі Радзіча проці сэрбаў заграніцай. Радзіч уцякае ад прасьледаваньняў з боку сэрбскай дэфэнзывы—сьпярша ў Лёндан, пасьля ў Вену, а пасьля ўваходзіць у цесныя стасункі з Масквой, бачучы толькі там шчыры спогад цяжкай справе свайго пакрыўджанага чыста сялянскага народу, спогад, якога ён дарма шукаў у Лёндане. У Маскве Радзіч праводзіць далучэньне сваей „Харвацкай сялянскай рэспубліканскай партыі“ да так-званага „Крэстінтэрну“, ці „Сялянскага Інтэрнацыяналу“, — міжнароднага аб'яднаньня сялянскіх партыяў, стоячых на груньце камунізму, ці блізкіх да яго.

Два гады, здаецца, Радзіч з сямю-дзясяткамі харвацкіх пасло́ў-рэспубліканцаў-незалежнікаў байкатуюць бэлградзкі Сойм; большасьць іх жыве заграніцай, маніфэстуючы такім чынам перад усім сьветам глыбокі канфлікт паміж сэрбамі-гвалтаўнікамі і харватамі, якія гвалтам далучаны да Югаславіі—проці волі народу. Такі стан рэчаў, кампрамітуючы „слаўны“ Вэрсальскі Трактат з яго „фальваркамі“, урэшце змусіў белградзкі ўрад шукаць паразуменьня.

Асабліва сільна ўплынулі на гэтыя спробы новыя выбары ў 1924 г., якія — ня гледзячы на страшэнны выбарны тэрор з боку сэрбскіх уладаў у Харватыі — далі ў Сойме тых-жа 7 дзясяткаў харвацкіх паслоў, на чале з тым жа Радзічам.

Тады, пачуўшы такую моцную апору ў краі, Радзіч пастанавіў зьмяніць тактыку: ён вярнуўся сам і загадаў вярнуцца ўсім харвацкім эмігрантам у край, дзе яны былі зараз-жа арыштаваны і пасаджаны ў вастрог—па абвінеаньні „ў здрадзе“, „зносінах з Масквой“, імкненьні да аддзяленьня і г. далей...

У часе выбараў большасьць харвацкіх павадыроў сядзелі ў вастрогах. Выбары звольнілі іх з вастрогу. Тады з свайго боку і белградзкі ўрад, пачуўшы сілу і стойкасьць харвацкага народу ў падтрыманьні сваіх павадыроў, пайшоў на кампраміс. Атрымаўшы магчымасьць пляновай легальнай барацьбы за правы і інтарэсы народу на груньце парляманту, Радзіч прынцыпова прызнаў за падставу паразуменьня з сэрбамі агульную югаслаўскую дзяржаўнасьць, але заявіў, што прызнае цалком гэтую супольную дзяржаўнасьць толькі тады, калі яна сама будзе ўгрунтавана на запраўднай раўнапраўнасьці харвацкага народу з сэрбскім, як гэтага вымагае і Канстытуцыя Югаславіі. Радзіч з сваімі таварышамі **адмовіўся ад лёзунгу рэвалюцыйнай барацьбы за здабыцьцё рэспублікі і незалежнасьці**, заявіўшы, што замест гэтага—на супольным парляманцкім груньце распачынае барацьбу—за перагляд канстытуцыі ў напрамку фэдэрацыі самастойных краёў, уваходзячых у склад каралеўства.

З свайго боку Белград спыніў усе працэсы проці харвацкіх незалежнікаў, зьліквідаваўшы такім чынам цэлы вялікі рэвалюцыйны пэрыяд існаваньня нова-створанай дзяржавы дый залажыўшы новыя — унутраныя—падставы яе мірнай кансалідацыі.

Ад таго часу і пачалася ў Белградзкім Сойме напружаная барацьба харвацкай апазіцыі за поўную роўнасьць нацыянальнасьцяў і краёў у Югаславіі. У барацьбу гэтую Радзіч, як заўсёды, уносіў увесь свой бурна-вогненны тэмпэрамэнт шчырага барацьбіта за народную справу. Харвацкая апазіцыя, якая аб'яднала ў сабе амаль ня ўвесь харвацкі народ дый да якой далучылася і найбольш пакрыўджанае, бяднейшае сэрбскае сялянства—ў асобе сэрбскай сялянскай партыі „Незалежных Дэмакратаў“, распачала — пад кіраўніцтвам Радзіча і Прыбічэвіча (павадыр „незал. дэмакратаў“) — гераічную барацьбу проці ўсіх тых няроўнасьцяў і несправядлівасьцяў, якія зьмяшчае дзяржаўны лад, унутраная палітыка і чыноўніцкая практыка Югаславіі, у якой усьцяж пануе „прыроджаным валадыром“ краю сэрбскі нацыяналізм і цэнтралізм,—сэрбская „самадзяржаўная бюракратыя“...

Не разводзячы тутака шырэй над гэтымі несправядлівасьцямі, якія ўсьцяж пануюць у дзяржаве, скажам каротка, што іншыя краі, уваходзячыя ў склад Югаславіі, маюць—у параўнаньні з чыста — сэрбскімі яе часткамі — значныя абмяжаваньні ў галіне прадстаўніцтва ў парляманьце і выразна крыўдны падзел падаткавых цяжараў. Так напрыклад, сэрбскі цэнтральны край (даваенная Сэрбія), складаючы траціну усей дзяржавы, выбірае ў Сойм палову паслоў, але плаціць толькі чацьвертую частку (навет менш) падаткаў! Ведама-ж, што сэрбскія „эндэкі“ нялёгка ішлі на адмову ад такіх выняткавых прывілегіяў, якія яны лічылі „справядлівымі“ для сэрбаў — „за іх асаблівую ролю ў стварэньні югаслаўскай дзяржавы“ дый—„за іх найвялікшыя ахвяры ў часе вайны“. Харваты адказвалі на гэта, што іншыя народы зусім ня хочуць сваім коштам аплачваць такія выняткавыя прывілеі

